# Голас Радзімы

№ 27 (2013)
2 ліпеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Лета — найбольш спрыяльная пара для выступленняў традыцыйнага тэатра лялек «Батлейка». Менавіта ў цёплыя сонечныя дні выпраўляюцца ў вандроўкі па навакольных вёсках самадзейныя артысты з Залескага Дома культуры, што на Смаргоншчыне. Спектаклі яны наладжваюць не толькі ў клубах, але і проста на вясковай вуліцы, на кірмашы. Вясёлыя і дасціпныя інтэрмедыі, сцэнкі з мясцовага жыцця з вялікай цікавасцю глядзіць публіка.**

**(Артыкул пра «Батлейку» чытайце на 6-й стар.).**

# ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА М. С. ГАРБАЧОВА

## ўдзельніцам Сусветнага кангрэса жанчын

**«К 2000 году — без ядзернай зброі! За мір, роўнасць, развіццё!» Пад гэтым дэвізам у Маскве з 23 па 27 чэрвеня праходзіў Сусветны кангрэс жанчын.**

**Ён сабраў пасланцоў 154 краін, больш чым 800 нацыянальных арганізацый. Людзі розных палітычных поглядаў, перакананняў, сацыяльнага паходжання вялі адкрытыя нефармальныя дыскусіі і дыялогі ў васьмі тэматычных камісіях і трох цэнтрах. Кангрэс адлюстраваў у сваёй рабоце імкненне жанчын змагацца за бяз'ядзерны свет, стварыць яго такім, каб ён не ведаў больш голаду, хвароб, галечы, каб прынцып сапраўднай роўнасці жанчын увасабляўся ў жыццё ўсюды і як мага хутчэй.**

**У першы дзень работы Сусветнага кангрэса жанчын да яго ўдзельніц звярнуўся з прывітальным словам Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Тэкст яго выступлення мы публікуем з невялікімі скарачэннямі.**

Паважаныя госці!

Дарагія сябры, таварышы!

Высакародныя і гуманныя мэты вашага кангрэса—зберагчы і зрабіць больш справядлівым жыццё на планеце. Сёння гэта надзённая задача і сусветнай палітыкі.

На падыходзе да трэцяга тысячагоддзя чалавецтва абавязана бясстрашна і цвяроза ацаніць мноства няпростых праблем. Гэта — і збядненне энергетычных рэсурсаў, і голад, галеча дзесяткаў, соцень мільёнаў людзей, і дрэннае экалагічнае становішча, якое закранае ледзь ці не ўсе краіны; даўнія, а цяпер яшчэ і новыя грозныя хваробы. Але ўсе гэтыя і іншыя праблемы міжнароднага маштабу так або інакш звязаны з задачай ліквідацыі пагрозы ядзернай вайны. Без руху да бяз'ядзернага, ненасільнага свету — няма дарог да прагрэсу чалавецтва. Тут ключ да таго, каб справіцца з выклікамі, якія кідае нам няпросты, драматычны і многаабяцаючы час.

Нікому з нас не дадзена перапісаць гісторыю з яе лютымі войнамі, саперніцтвам дзяржаў, класаў, людзей, з узлётамі і падзеннямі чалавечага духу, з усімі яе трагедыямі і трыумфамі. Але гэта — гісторыя чалавецтва падзеленага, чалавецтва, якое не ўсведамляла сваёй агульнасці.

Цяпер настаў момант, калі пры ўсёй разнастайнасці сучаснага свету і безумоўным праве кожнага народа на самастойны выбар усе абавязаны лічыцца з цэласнасцю сусветнага супольніцтва, засвоіць, што ад нас, ад цяперашняга пакалення, залежыць — быць або не быць жыццю на Зямлі.

Ваш кангрэс — уражальнае праяўленне растучага ўсведамлення людзьмі ў розных краінах іх асабістага дачынення да таго, што адбываецца ў свеце.

Людзі стаміліся ад прыгнятаючага чакання катастрофы. Расце разуменне, што адвесці небяспеку можна, толькі працягнуўшы адзін аднаму рукі праз непазбежныя ідэалагічныя, эканамічныя, палітычныя перагародкі, якія падзяляюць дзяржавы. І павінен сказаць, што іменна жанчыны больш поўна, эмацыянальна, востра ўспрымаюць абсалютны прыярытэт захавання міру над усім астатнім.

Старадаўняя прытча гаворыць: тры галоўныя каштоўнасці ёсць на свеце. Хлеб надзённы, які дае жыццёвую сілу і здароўе. Мудрасць, якая заключана ў кнігах і забяспечвае сувязь часоў. І жанчына, не дазваляючая абарвацца ніці жыцця. Лепшыя розумы ва ўсе часы падкрэслівалі міратворчую ролю жанчыны, яе здольнасць астудзіць разгарачаныя галовы, надаць высакароднасць жорсткаму сэрцу. І не дзіўна, што іменна ў жанчынах, якім прыродай прызначана захоўваць і працягваць чалавечы род, ідэя міру набывае сёння свайго самага бескарыслівага, самаадданага і масавага абаронцу. Энергічныя, страсныя антываенныя ініцыятывы і выступленні жаночых арганізацый і рухаў сталі неад'емнай асаблівасцю грамадска-палітычнага клімату.

Міжнародны жаночы рух прыметна ўмацаваў патэнцыял міру і добрай волі. Ён прымусіў сябе слухаць. Гэта—рэальны фактар палітыкі.

Тое, што жанчыны даюць грамадству і што ў стане яму даваць, залежыць і ад здольнасці грамадства даць жанчыне рэальныя правы, сацыяльную абарону, забяспечыць ёй належнае сацыяльнае самаадчуванне. Ступень эмансіпацыі жанчыны — натуральная мерка эмансіпацыі ўсяго грамадства. «Не можа быць, няма і не будзе сапраўднай «свабоды», пакуль няма свабоды для жанчыны ад прывілей па закону на карысць мужчыны», — гэта словы У. І. Леніна. Да іх бы я дадаў, што становішча жанчыны — барометр дэмакратызму любой дзяржавы, паказчык павагі правоў чалавека ў ёй.

Жанчыны ва ўсім свеце справядліва патрабуюць, каб іх голас быў пачуты і воля ўлічвалася ў прыняцці важнейшых дзяржаўных рашэнняў. Яны жадаюць бачыць, адчуваць, што грамадства цэніць іх працу, іх здольнасці, мае патрэбу ў іх жыццёвай мудрасці, іх сардэчным цяпле і вялікадушнасці. Яны хочуць быць упэўнены, што іх сем'і ніколі не будуць пакінуты ў бядзе, што ім будуць гарантаваны самыя неабходныя ўмовы для нармальнага жыцця, што іх дзеці атрымаюць адукацыю, а захварэўшаму дзіцяці заўсёды будзе аказана дапамога.

Вам, напэўна, цікава ведаць, як мы глядзім на ўсе гэтыя праблемы ў сябе ў краіне, што робім для іх вырашэння.

Хутка савецкія людзі адзначаць 70-годдзе сваёй вялікай рэвалюцыі. Многае ў чалавечай гісторыі яна зрабіла ўпершыню. **Упершыню** адкрыла дарогу да такой цывілізацыі, у якой няма эксплуатацыі, няма галодных і абяздоленых, няма беспрацоўя і непісьменнасці. **Упершыню** працоўны народ атрымаў магчымасць будаваць грамадства ў сваіх інтарэсах. **Упершыню** ўсе нацыі і нацыянальнасці сталі раўнапраўнымі і стварылі унікальнае інтэрнацыянальнае супольніцтва. **Упершыню** паявілася дзяржава, зацікаўленая ў духоўным росце кожнага свайго грамадзяніна, у яго свядомай палітычнай актыўнасці. І ні адна дзяржава, ні адно дэмакратычнае заканадаўства да 1917 года не зрабіла для жанчыны і палавіны таго, што зрабіла Савецкая ўлада ў першыя ж месяцы свайго існавання.

Жанчына ў СССР сапраўды мае роўныя з мужчынам правы, а ў чымсьці — нават большыя. Ніякай дыскрымінацыі ў аплаце працы. Аднолькавыя ўмовы для атрымання адукацыі, для службовай кар'еры, для ўдзелу ў дзейнасці партыі, ва ўрадавых і мясцовых органах улады. Жанчыны працуюць ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, яны дамінуюць у такіх сферах, як ахова здароўя, асвета, культура. Больш таго: сярод спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй жанчыны складаюць у нас 60 працэнтаў.

Ці можна са сказанага заключыць, што ўсё ў нас тут у парадку? З усёй шчырасцю скажу вам: не.

Некаторыя недахопы, як бывае і ў асобных людзей,—прадаўжэнне добрых якасцей нашага грамадства. Актыўны і раўнапраўны ўдзел жанчыны ў грамадскай вытворчасці, у палітычнай, навуковай і культурнай дзейнасці ўзнялі аўтарытэт жанчыны, яе самапавагу, пачуццё годнасці, незалежнасці ад мужчыны. Але гэта не заўсёды суправаджалася аблягчэннем у выкананні ёю сваіх спрадвечных функцый — маці, жонкі, выхавальніцы. Некаторыя праблемы абвастрыліся з-за недахопаў у сферы абслугоўвання і гандлю. Сацыяльная нагрузка на жанчыну, такім чынам, узрасла.

Вы, вядома, ведаеце, што наша грамадства перажывае надзвычай цікавы і вельмі складаны перыяд глыбокіх перамен. Мы называем гэта перабудовай.

Перабудова дазволіць па-сапраўднаму раскрыць патэнцыял сацыялізму. Уцягваем у яе ўсе слаі народа. Даём простор ініцыятыве, творчасці, талентам, здольнасцям. Кожнаму знойдзецца і справа, і месца ў гэтай вялікай рабоце. І ўсе мы працягваем вучыцца і вучыць адзін аднаго працаваць ва ўмовах перабудовы. Размова ідзе аб тым, каб надаць якасна новае аблічча сацыялістычнаму ладу, развіць закладзеныя ў яго прынцыповай аснове гуманізм, павагу да годнасці чалавека, узняць на новую ступень званне грамадзяніна сацыялістычнай Айчыны. Робім гэта праз шырокую дэмакратызацыю.

І не так ужо проста мы прыйшлі да новага мыслення. Яно нарадзілася не толькі з патрэбнасці па-сучаснаму вырашаць і па-сапраўднаму вырашыць нашы ўнутраныя праблемы. Яно—пошук адказу на выклік, які кідае ўсяму чалавецтву час. Гэта грозны выклік, з якім сутыкацца яшчэ не даводзілася.

Канец XX стагоддзя стаў пераломным у гісторыі цывілізацыі. Беспрэцэдэнтнае развіццё навукі і тэхнікі зрабіла якасны пераварот у ваеннай справе: людзі абзавяліся зброяй, здольнай, калі нават узарвецца толькі малая яе частка, ператварыць планету ў папялішча. Не дапусціць гэтага—стала прыярытэтнай задачай.

Але тут ёсць і іншы бок. Амаральна захапляцца навукова-тэхнічным прагрэсам, закрываючы вочы на тое, што плёнам яго карыстаецца толькі нязначная частка жыхароў Зямлі. Сотні мільёнаў не ядуць удосталь, не ўмеюць чытаць і пісаць, а то і не маюць даху над галавой. І самае страшэннае—дзеці, якія штодзённа паміраюць ад знясілення, хвароб, адсутнасці самага неабходнага. І гэта ў канцы XX стагоддзя—веку электронікі і «зялёных рэвалюцый», палётаў у космас і сапраўды неабмежаваных магчымасцей накарміць, адзець, абучыць некалькі мільярдаў людзей. Але гэтыя магчымасці не проста мала і дрэнна выкарыстоўваюцца. Імперыялізм накіроўвае іх супраць чалавека. І таму з-за навязанай ім гонкі ўзбраенняў навукова-тэхнічны прагрэс пакуль што яшчэ вельмі дорага абыходзіцца людзям. Расце разрыў паміж невялікай колькасцю развітых дзяржаў і дзесяткамі краін у Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амерыцы. Катастрафічных памераў дасягнула іх фінансавая запазычанасць, якая ёсць не што іншае, як вынік эгаістычнай, сапраўды грабежніцкай дзейнасці банкаў і карпарацый капіталістычнай «поўначы».

У выніку небяспека для ўсяго чалавецтва, параджаемая неэквівалентным абменам і эксплуатацыяй адсталай часткі свету, ужо супастаўмая з усеагульнай ядзернай і экалагічнай пагрозай.

Інакш кажучы, раззбраенне для развіцця, давер'е і супрацоўніцтва — вось «тры кіты», на якіх толькі і можна ісці ў будучыню. Альтэрнатывы ўжо няма.

Разуменне гэтага пранікае ў шырокія масы, у палітычна ўплывовыя сферы. І што самае важнае—яно трансфармуецца ў актыўныя пазіцыі, у арганізаваныя дзеянні—супраць гонкі ўзбраенняў, у падтрымку канкрэтных ініцыятыў, якія дазваляюць дагаворвацца аб зніжэнні ваеннай пагрозы. Напамінанні ўрадам аб іх адказнасці перарастаюць у дэманстрацыю недавер'я да тых, хто ўхіляецца ад сваёй адказнасці, хто па-ранейшаму не хоча лічыцца з рэальнасцямі.

Усё цяжэй становіцца палохаць «савецкай пагрозай», апраўдваць ёю гонку ўзбраенняў і зацягванне перагавораў. Ёсць сілы ў свеце—вы аб іх ведаеце,—якіх такія перамены не задавальняюць.

І гэтыя сілы ўжо дзейнічаюць, каб паставіць заслон працэсу давер'я ў міжнародных адносінах.

За апошнія два гады Савецкі Саюз выступіў з прапановамі практычна па ўсіх пытаннях раззбраення. У адказ мы скрозь і ўсюды чуем: добра, але няхай Саветы пацвердзяць словы справамі.

Скажу так: рэалістычная палітыка патрэбна не толькі нам. Яна патрэбна ўсім дзяржавам, усім народам, у тым ліку— амерыканскаму. А яна прадугледжвае як мінімум сур'ёзныя адносіны да прапаноў другога боку—наколькі яны канструктыўныя, ці ўлічваюць інтарэсы партнёра, думку грамадскасці, вывады навукі. На жаль! У адказ на нашы ініцыятывы мы, як правіла, атрымліваем або імгненную адмову, або дагматычнае пацвярджэнне старых пазіцый. Значыць, тут з рэалізмам у палітыцы—не ўсё ў парадку. А свет мае патрэбу і патрабуе палітыкі рэальных спраў.

Калі сумленна паглядзець, як суадносяцца слова і справа ў адносінах Усход—Захад, якая атрымаецца карціна?

Савецкі Саюз, кіруючыся новым мысленнем, будуе сваю знешнюю палітыку так, каб спыніць гонку ўзбраенняў, ліквідаваць ядзерную пагрозу, аздаравіць абстаноўку. А Злучаныя Штаты працягваюць рабіць стаўку на сілу зброі і расшырэнне сферы ваеннага саперніцтва, уключаючы космас.

Савецкі Саюз 18 месяцаў трымаў аднабаковы мараторый на ядзерныя выпрабаванні. Гэта — справа, а не словы. ЗША таксама адказалі справай — нарошчваннем выбухаў у Невадзе.

Савецкі Саюз прапанаваў 15 студзеня 1986 года праграму паэтапнай ліквідацыі ядзернай і іншай зброі масавага знішчэння к канцу стагоддзя. Што нам адказалі?— Што свет без ядзернай зброі наогул немагчымы, што гэта — утопія, і зноў пакляліся ў вернасці дактрыне «ядзернага стрымлівання».

Мы спынілі вытворчасць хімічнай зброі і будуем завод па яе знішчэнню. Гэта — справа, а не словы. Чым адказвае НАТО? — Планамі вытворчасці і размяшчэння бінарнай зброі.

Іменна дзякуючы таму, што Савецкі Саюз справай даказаў сваю гатоўнасць улічваць занепакоенасці партнёраў, стаў магчымы пазітыўны вынік Стакгольмскай канферэнцыі па мерах давер'я.

Сустрэча ў Рэйк'явіку, якую мы прапанавалі, магла азнаменаваць гістарычны пералом у пытаннях раззбраення. Але драматычны дыялог не вырашыўся дагаворанасцю. Рашаючы крок не быў зроблены. Таму, што для ЗША ён азначаў бы адмову ад падрыхтоўкі «зорных войнаў», ад курсу на ваенна-стратэгічную перавагу над Савецкім Саюзам.

Колькі шуму было — і ён працягваецца — аб кантролі. Савецкі Саюз публічна і за сталом перагавораў выступіў за самыя строгія меры кантролю, уключаючы міжнародныя, і інспекцыю на месцах. І што ж Захад? Зноў — словы аб важнасці кантролю. Але ўжо суправаджаемыя агаворкамі, сэнс якіх ахаваць ад яго прыватны ваенны бізнес і базы на чужых тэрыторыях.

Калі грамадскасць, палітычныя дзеячы, вучоныя звярнуліся да нас з просьбай вычленіць ракеты сярэдняй дальнасці з рэйк'явікскага «пакета», мы адказалі справай: пайшлі на такі крок. Больш таго, згадзіліся ліквідаваць і аператыўна-тактычныя ракеты ў Еўропе. Пасля мнагамесячных затрымак і «ўтрэсванняў» натаўцы як быццам даюць станоўчы адказ. Але наступныя затым растлумачэнні — і ў заявах, і па дыпламатычных каналах — насцярожваюць. Зноў, як гэта ўжо не раз бывала, мы бачым спробы адступіць ад таго, аб чым было ўмоўлена паміж Масквой і Вашынгтонам на палітычным узроўні. Зноў перад намі выстаўляюць патрабаванні, якія ідуць уразрэз з прынцыпам раўназначнай бяспекі. Паклоны ў бок непапраўных мілітарыстаў, якія не жадаюць мірыцца з магчымасцю заключэння першага пагаднення аб ядзерным раззбраенні, указваюць на вельмі вялікую залежнасць амерыканскай адміністрацыі ад мілітарысцкіх груп.

У чэрвені якраз споўніўся год з часу будапешцкай ініцыятывы краін Варшаўскага Дагавора. Яны прапанавалі НАТО разабрацца ў пытаннях звычайнай зброі і ўзброеных сіл ад Атлантыкі да Урала, сесці за стол перагавораў і дагаварыцца скараціць і адно і другое на чвэрць у пачатку 90-х гадоў, а потым яшчэ больш. У адказ у краінах НАТО загаварылі аб неабходнасці для іх укладваць больш грошай у вытворчасць і ўдасканаленне звычайных узбраенняў.

Месяц назад у Берліне на нарадзе Палітычнага кансультатыўнага камітэта ўдзельнікі Варшаўскага Дагавора дакладна выклалі сваю ваенную дактрыну, якая падпарадкавана задачы недапушчэння вайны — як ядзернай, так і звычайнай, арыентавана на разумную дастатковасць у аб'ёмах і характары ўзбраенняў і ўзброеных сіл і прызначана выключна для мэт абароны. Яны запрасілі НАТО абмеркаваць і супаставіць на высокім узроўні дактрыны абодвух блокаў і дагаварыцца аб тым, каб выключыць саму ваенна-тэхнічную магчымасць нападу адных на другіх. Яснага адказу мы не маем.

Такая сітуацыя. Такія словы і справы. Я павінен быў сказаць вам аб гэтым, таму што любы рух за мір у наш час не можа адхіляцца ад «канкрэтыкі» ваеннай небяспекі ў кожны даны момант. Іменна таму, дарэчы, такую вагу набылі цяпер на вагах міру і вайны прафесіянальныя арганізацыі—вучоных, урачоў, былых ваенных. Іх кампетэнтнасць дазволіла ім стаць ужо неадхільным фактарам цяперашняй расстаноўкі сіл.

## ЯК ВЫБІРАЕЦЦА І ПРАЦУЕ СУД У СССР

# ПРАВА НА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

*21 чэрвеня 1987 года ў Беларусі прайшлі выбары народных суддзяў раённых (гарадскіх) народных судоў. У сувязі з гэтым рэдакцыя звярнулася да дэкана юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, доктара юрыдычных навук, прафесара Валерыя ЦІХІНІ з просьбай адказаць на некаторыя пытанні, якія цікавяць нашага зарубежнага чытача.*

**— Валерый Гур'евіч, першае пытанне, натуральна, аб тым, як, у якім парадку ў нас выбіраюцца суддзі?**

— У нашай краіне ўсе суддзі выбіраюцца. Гэты важны прынцып арганізацыі савецкай судовай сістэмы ўпершыню заканадаўча быў замацаваны ў Дэкрэце аб судзе № 1 ад 22 лістапада 1917 года, г. зн. у першыя дні пасля здзяйснення сацыялістычнай рэвалюцыі.

Па дзеючаму заканадаўству народныя суддзі раённых (гарадскіх) судоў выбіраюцца грамадзянамі раёна (горада) на падставе ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на пяць год. Вышэйстаячыя суды выбіраюцца адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў: абласныя суды—абласнымі Саветамі народных дэпутатаў, Вярхоўны Суд БССР—Вярхоўным Саветам Беларускай ССР. Суддзі ваенных трыбуналаў выбіраюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР. Вышэйшы судовы орган нашай краіны—Вярхоўны Суд СССР выбіраецца Вярхоўным Саветам СССР.

У той жа час у многіх буржуазных краінах суддзі не выбіраюцца, а назначаюцца. Так, у Англіі ў адпаведнасці з Законам аб судах 1971 года акруговыя суддзі назначаюцца каралевай з ліку асоб, рэкамендаваных лорд-канцлерам.

**— Якія патрабаванні прад'яўляюцца да кандыдатаў у суддзі?**

— Суддзёй можа быць выбраны любы грамадзянін СССР, які мае выбарчае права і дасягнуў да дня выбараў 25 гадоў. Якіх-небудзь іншых патрабаванняў да кандыдатаў у суддзі закон не прад'яўляе. Вядома, гэта не азначае, што пры вылучэнні ў органы правасуддзя не ўлічваюцца палітычныя і дзелавыя якасці таго ці іншага кандыдата, наяўнасць спецыяльнай адукацыі і жыццёвага вопыту. Ажыццяўленне правасуддзя—складаная і вельмі адказная дзейнасць. Яна патрабуе глыбокіх ведаў, прафесіянальных навыкаў, умення працаваць з людзьмі і да т. п. Судзіць іншага мае права толькі той, чыё сумленне чыстае і бездакорнае. Таму кандыдат у суддзі павінен мець высокія маральныя якасці.

**— Вядома, што ў народных судах грамадзянскія і крымінальныя справы разглядаюцца ў складзе старшынствуючага (прафесіянальнага суддзі) і двух народных засядацеляў. Хацелася б больш падрабязна даведацца пра гэтых прадстаўнікоў народа.**

— Народныя засядацелі раённых (гарадскіх) судоў выбіраюцца з ліку рабочых, калгаснікаў і служачых на сходах працоўных калектываў па месцу работы ці жыхарства адкрытым галасаваннем тэрмінам на два з палавінай гады. Народныя засядацелі ваенных трыбуналаў выбіраюцца на сходах ваеннаслужачых на той жа тэрмін.

Сярод народных засядацеляў, выбраных у Беларусі на мінулых выбарах, звыш палавіны склалі рабочыя і калгаснікі, жанчыны і беспартыйныя. Узрост кожнага пятага народнага засядацеля—да 30 гадоў. Як бачыце, прадстаўлены ўсе сацыяльныя слаі нашага грамадства і ўсе ўзроставыя групы насельніцтва.

Народныя засядацелі прызываюцца да выканання сваіх абавязкаў у судзе ў парадку чарговасці не больш чым на два тыдні на год, акрамя выпадкаў, калі прадаўжэнне гэтага тэрміну выклікаецца неабходнасцю скончыць разгляд справы, пачатай з іх удзелам.

**— Якімі правамі надзелены народныя засядацелі ў судовым пасяджэнні?**

— Як запісана ў артыкуле 153 Канстытуцыі БССР, народныя засядацелі пры ажыццяўленні правасуддзя карыстаюцца ўсімі правамі суддзі. У судовым пасяджэнні яны поўнасцю раўнапраўныя з суддзёй у вырашэнні ўсіх пытанняў, што ўзнікаюць пры разглядзе грамадзянскіх і крымінальных спраў.

**— Мы ведаем, што некаторыя народныя засядацелі паводзяць сябе ў судовым працэсе пасіўна, не задаюць асобам, якія прымаюць удзел у справе, ніводнага пытання. Складваецца ўражанне, што яны толькі адбываюць сваю павіннасць у судзе.**

— Вы правільна заўважылі. Сапраўды, некаторыя народныя засядацелі адыгрываюць ролю маўчуноў у судовым пасяджэнні. Яны забываюць, што заклікаhistory ажыццяўляць ад імя працоўных калектываў грамадскі кантроль за работай судоў.

Таму ў нас заўсёды было патрабаванне выбіраць у народныя засядацелі таго, хто не толькі добра працуе на вытворчасці, але і з'яўляецца сацыяльна актыўным, справядлівым, умее зразумець чужы боль. І, вядома ж, няблага, калі б ён крыху быў юрыдычна падкаваны. Я мяркую, што пры спалучэнні ўсіх гэтых якасцей народны засядацель будзе належна выконваць місію суддзі, выбранага народам. Асабліва важна гэта цяпер, калі краіна перажывае перыяд перабудовы, калі ўсюды пануе публічнасць.

**— Буржуазныя вучоныя-юрысты спрабуюць даказаць, што ў капіталістычных краінах правасуддзе ажыццяўляе таксама народ. Пры гэтым звычайна спасылаюцца на суд прысяжных, які дзейнічае ў Англіі, ЗША, ФРГ і іншых краінах.**

— Суд прысяжных не мае нічога агульнага і па форме, і па зместу з савецкім народным судом. У многіх капіталістычных краінах з удзелам прысяжных разглядаюцца толькі асобныя катэгорыі спраў. Напрыклад, у Англіі прысяжныя практычна не разглядаюць грамадзянскія справы, у ЗША з удзелам прысяжных разглядаецца толькі каля 10 працэнтаў спраў. У ФРГ так званыя «надзвычайныя законы» поўнасцю знімаюць удзел прысяжных у судзе ў выпадку аб'яўлення ў краіне надзвычайнага становішча.

Буржуазнае правасуддзе, як раскошны атэль, даступна толькі для тых, хто мае магчымасць яго аплаціць. У Італіі нядаўна завяршыўся адзін з самых доўгіх судовых працэсаў, які працягваўся 65 год. Ён быў узбуджаны членамі сям'і Кармела Парызі, якія аспрэчвалі пасля яго смерці права спадчыннасці. Сваякі нябожчыка ў канчатковым выніку былі вымушаны спыніць хаджэнне па судовых інстанцыях, таму што ўся спадчына пайшла на аплату паслуг адвакатаў, якія вялі працэс.

**— Артыкул 154 Канстытуцыі БССР абвяшчае, што суддзі незалежныя і падпарадкоўваюцца толькі закону. Як рэальна гарантуецца гэты канстытуцыйны прынцып?**

— У Савецкай дзяржаве прынцып незалежнасці суддзяў не толькі абвяшчаецца, але і забяспечваецца палітычнымі, эканамічнымі і прававымі гарантыямі.

Як ужо адзначалася, суддзі ў СССР выбіраюцца, а не назначаюцца. Гэта найважнейшая гарантыя незалежнасці суддзяў. Ніхто (нават вышэйшы судовы орган) не можа прама ці ўскосна ўказаць суддзям, якое рашэнне ці прыгавор яны павінны вынесці па канкрэтнай справе. Пры разглядзе спраў забяспечваецца тайна нарады суддзяў—у дарадчы пакой пры вынясенні рашэння ці прыгавора не допускаюцца пабочныя асобы; суддзі не маюць права выдаваць меркаванні, што выказваліся на нарадзе. На жаль, спробы ў той ці іншай меры ўплываць на суды на месцах у нас яшчэ поўнасцю не зжыты. Устаноўлены Канстытуцыяй СССР прынцып незалежнасці суддзяў абавязвае суды спыняць любыя спробы ўмяшання ў вырашэнне канкрэтных спраў.

Гарантыяй незалежнасці суддзяў з'яўляецца асобы парадак прыцягнення суддзяў да дысцыплінарнай адказнасці. Ён устаноўлены Палажэннем аб дысцыплінарнай адказнасці суддзяў СССР ад 8 лютага 1982 года. Народныя суддзі ў нашай рэспубліцы не могуць быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, звольнены ў сувязі з гэтым з пасады ці падвергнуты арышту без згоды Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

**— Забеспячэнне абвінавачанаму права на абарону займае значнае месца ў сістэме дэмакратычных асноў сацыялістычнага правасуддзя. У чым сутнасць і значэнне данага канстытуцыйнага прынцыпу?**

— У адпаведнасці з гэтым прынцыпам абвінавачаны мае права ведаць, у чым ён абвінавачваецца, можа даваць тлумачэнні па прад'яўленаму абвінавачанню, прадстаўляць доказы, заяўляць хадайніцтвы і адводы суду і іншым удзельнікам працэсу, знаёміцца пасля заканчэння папярэдняга следства ці дазнання з усімі матэрыяламі справы, удзельнічаць у судовым разбіральніцтве, абскарджваць дзеянні і рашэнні следчага, пракурора і суда. Гэты пералік правоў абвінавачанага не з'яўляецца вычарпальным.

**— Абвінавачаны, як вядома, можа карыстацца юрыдычнай дапамогай абаронцы. Іншы раз гавораць так: навошта абвінавачанаму абаронца, калі ён сам ва ўсім прызнаўся?**

— У савецкім крымінальным працэсе абвінавачаны—гэта яшчэ не вінаваты. Пакуль абвінавачанне не даказана і абвінавачаны не асуджаны, ён не лічыцца вінаватым. Каб правільна рашыць пытанне аб вінаватасці абвінавачанага, неабходна даследаваць не толькі факты, якія яго абвінавачваюць, але і тыя, якія яго апраўдваюць. Таму забеспячэнне абвінавачанаму права на абарону—гэта неабходная ўмова ўстанаўлення ісціны па справе.

Савецкі суд не патрабуе ад абвінавачанага прызнання віны. Калі абвінавачаны жадае маўчаць—гэта яго справа. Разам з тым амерыканская судовая статыстыка паказвае, што да 90 працэнтаў прыгавораў па крымінальных справах выносіцца на падставе прызнання віны; ва ўсіх выпадках, калі падсудныя не пярэчаць супраць абвінавачання, яны аказваюцца асуджанымі.

**— Валерый Гур'евіч, у чым вы бачыце ролю суда на сучасным этапе развіцця савецкага грамадства?**

— Сёння ў краіне ідзе працэс ачышчэння нашага жыцця ад усяго, што супярэчыць прынцыпам сацыялізму, савецкім законам. Цяжка пераацаніць тут ролю органаў правасуддзя, якія заклікаы зацвердзіць справядлівасць уласцівымі ім метадамі. Паранейшаму адной з найважнейшых задач суда застаецца барацьба са злачыннасцю і іншымі правапарушэннямі. Сёння суддзі павінны больш увагі ўдзяляць прафілактыцы парушэнняў закона.

Любая грамадзянская і крымінальная справа павінна вырашацца ў дакладнай адпаведнасці з патрабаваннямі закона ва ўмовах публічнасці, спаборнасці і з захаваннем іншых дэмакратычных прынцыпаў сацыялістычнага правасуддзя.

На працягу многіх год пры ацэнцы работы судоў было прынята рабіць вывад, што ўсё ў асноўным ідзе добра, але маюцца асобныя недахопы. Такі падыход да судовай дзейнасці настройваў на самазаспакоенасць. Суддзі абавязаны крытычна паглядзець на сваю работу, павысіць якасць і эфектыўнасць ажыццяўлення правасуддзя па грамадзянскіх і крымінальных справах. Гэта пільная патрэба часу.







**Новы мікраараён Вяснянка ў Мінску, будаўніцтва якога пачалося некалькі год назад, набыў славу аднаго з самых прыгожых жылых масіваў беларускай сталіцы. Расце ён даволі хутка. Толькі ў пачатку гэтага года тут справілі наваселлі 900 сямей. Новыя кватэры атрымалі рабочыя і служачыя трактарнага, аўтамабільнага заводаў, механічнага імя Вавілава, аб'яднанняў «Атлант» і «Гранат», іншых прадпрыемстваў і ўстаноў горада. Цяпер тут жыве ўжо 11 тысяч чалавек. Разам з жыллём ствараюцца аб'екты сацыяльнай сферы. У Вяснянцы пабудаваны тры дзіцячыя сады , сярэдняя школа, комплекс службы быту, універсам.**

**НА ЗДЫМКАХ: сям'я маладых інжынераў Таццяны і Аляксандра ПЛАТОНАВЫХ нядаўна атрымала кватэру ў Вяснянцы; так выглядае новы мікраараён; у комплексе службы быту.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

